

**МАЛДАЎСКІЯ ЎРАЖАННІ**
ВЯСЁЛКА Ў ПРАДЧУВАННІ НАВАЛЬНІЦЫ — 2—3 стар.

**ДЫПКУР'ЕР ПРАДСТАЎЛЯЕ:**
"ВЕСТНИК МИНИСТЕРСТВА ИНОСТРАННЫХ ДЕЛ" — 3 стар.

НАВІНЫ. СПОРТ. РЭКЛАМА — 2—3 стар.



**ПРАДСТАЎЛЯЕ "LaSandr"**
"Уладзімір ЧАРНЫШОЎ НА СЦЭНЕ ЖЫЦЦЯ" — 4 стар.

**ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА "ЖЫЦЦЁ І ВЕРА"**
• "ВЫДАТНАЕ ЛІЦЦЁ" Ў МІНСКУ
• СІТУАЦЫЯ Ў ЗЕМБІНЕ — 5 стар.



**Васіль БЫКАЎ, Рыгор БАРАДУЛІН "ЛІСТЫ З ХЕЛЬСІНКІ"** — 7 стар.

МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ. — 6 стар.

**ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ**
*ПІЛІПАЎСКІЯ НОЧКІ ПРАДУЦЬ САРОЧКІ* — 8 стар.


**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** | **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

29 лістапада 2000 года
Цана 90 рублёў

**№ 48 (2710)**

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

**МУЖНАСЦЬ**



**Ордэн Пакланення, заснаваны Міжнароднай асацыяцыяй дзіцячых фондаў, уручыў прэзідэнт Расійскага дзіцячага фонду пісьменнік Альберт Ліханаў мужнай дзяўчынцы, 14-гадовай мінскай мастачцы Сашы Гушча. У 11-месячным узросце дзяўчынка атрымала наймацнейшыя апёкі, страціла кісці рук, перанесла 30 складаных аперацый, але знайшла ў сабе сілы жыць і тварыць. Светлыя, добрыя малюнкі Сашы ведаюць у многіх краінах свету.**

**Больш падрабязна пра лёс Сашы Гушча чытайце ў адным з наступных нумароў "ГР".**

**НА ЗДЫМКУ: прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір ЛІПСКІ, Саша ГУШЧА і Альберт ЛІХАНАЎ.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.**

**АКТУАЛЬНА**

## ВЫБАРЧЫ МАРАФОН

Пасля завяршэння выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, здавалася б, палітычнае жыццё ў краіне сцішылася. Але падобныя ўражанні — рэч досыць ілюзорная. Па-першае, адкрылася сесія палаты, дзе дэпутаты пачалі дзяліць пасадавыя партфелі, што таксама надае пэўны імпэт парламенцкаму жыццю. А па-другое, падобна на тое, што выбары набываюць на Беларусі перманентны характар. Зараз ідзе вылучэнне кандыдатаў (вельмі ціха і спакойна) у верхнюю палату — Савет Рэспублікі, а далей нас чакае галоўнае — прэзідэнцкія выбары 2001 года. З боку дзеючага кіраўніка дзяржавы ўжо выказаны намер балаціравацца на наступны тэрмін (іншага ніхто і не чакаў). Астатнія прэтэндэнты пакуль маўчаць.

Тым часам улада, якая мае намер прадоўжыць свае паўнамоцтвы, ужо зараз кожны крок робіць з аглядкай на электарат. Прынамсі, многае з таго, што адбываецца, выглядае менавіта так. Напрыклад, у наступным годзе паабяцана давесці сярэднюю зарплату бюджэтнікаў да памеру, эквівалентнага ста доларам ЗША. Зараз сярэдняя па краіне зарплата на ўзроўні 70-ці долараў. Але пакуль усё яшчэ не рэдкасць заробак 20—30 долараў. Асаблівая ўвага надаецца медыкам і настаўнікам, для якіх са снежня плануецца ўвесці шэраг спецыяльных надбавак і даплат.

Дарэчы, справамі медыцыны Прэзідэнт заняўся асабіста, для чаго правёў спецыяльную нараду, на якой канстатавана наяўнасць агульнага недаверу з боку народа да айчыннай медыцыны. Здароўе нацыі пагаршаецца. Шмат у чым вінавата чарнобыльская катастрофа, якая негатыўна адбілася на некалькіх пакаленнях беларусаў. Але адыгрываюць сваю адмоўную ролю і суб'ектыўныя фактары, у першую чаргу, матэрыяльнае становішча людзей. На Беларусі зніжаецца нараджальнасць, расце захворванне на так званыя "сацыяльныя" немачы (сярод іншага вялікую трывогу выклікае распаўсюджанне сухотаў, якія здаўна лічацца хваробай беднякоў), а ў выніку — скарачаецца працягласць жыцця.

Сапраўды, сёння наша медыцына бясплатная, але той, хто сур'ёзна хварэў сам ці займаўся лячэннем блізкіх, адчуў, што гэта значыць на справе. Плаціць усё роўна прыходзіцца: калі не грашыма, дык нервамі і ўсё тым жа здароўем. Але лічыцца, што ў цэлым беларуская грамадства пакуль не падрыхтавана да ўвядзення страхавой медыцыны ні маральна, бо за савецкія гады прызвычаіліся да пэўнага кола сацыяльных даброт, ні матэрыяльна — калі няма грошай на аспірын, адкуль жа яны возьмуцца на страхавыя выплаты.

Людзі не вельмі давяраюць гарантыям дзяржавы. Тым больш, калі абвешчана, што беларускім рублям наканавана нядоўгае жыццё: паміж Расіяй і Беларуссю заключана дамова аб увядзенні ў 2005-м годзе ў рамках саюзнай дзяржавы агульных грошай, якімі, зразумела, стануць расійскія рублі.

Канешне, узровень жыцця на Беларусі сёння нізкі, і павышаць яго неабходна: павялічваць зарплаты і пенсіі, будаваць новыя бальніцы і школы. Але вельмі важна, каб усё гэта мела пад сабой трывалы эканамічны грунт, бо "домікаў на пяску" Беларусі ўжо хапае.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

**МЕРКАВАННЕ**

## ПАТЭНЦЫЯЛ МАЕМ.
## СПРАВА ЗА ДЗЕЯННЕМ

Як вядома, Арганізацыя Аб'яднаных Нацый афіцыйна зарэгістравана 24 кастрычніка 1945 года, і на сённяшні дзень яе членамі з'яўляюцца 189 дзяржаў свету.

Прадстаўніцтва ААН у нашай краіне было адкрыта 8 верасня 1992 года. Са слоў рэзідэнта-каардынатара ПРААН на Беларусі Ніла Бунэ, акрамя яго ведамства ў нас працуе і шэраг іншых падструктур ААН: Сусветная арганізацыя аховы здароўя, Аб'яднаная праграма ААН па ВІЧ-СНІДу, Упраўленне Вярхоўнага Камісара па справах бежанцаў, Дзіцячы фонд ААН і іншыя.

Праводзячы работу больш чым па 20-ці праектах, ААН на Беларусі бачыць сваёй асноўнай задачай дапамогу беларусам у раскрыцці велізарных магчымасцей. Нам, аказваецца, нейкая там дапамога і не патрэбна, бо краіна можа стаць багатай, дзякуючы ўласным рэсурсам. А таксама — людзям. Як заўважыў спадар Бунэ, беларусы — народ вельмі працавіты, цягавіты і адукаваны. І апошняе вельмі важна. Скажам, на 100 тысяч чалавек у нас дактароў у два разы больш, чым у Вялікабрытаніі ці Ірландыі...

Аднак ёсць на Беларусі і некаторыя недарэчнасці. Напрыклад, беларускіх жанчын з вышэйшай адукацыяй у нас у 1,4 раза болей, чым мужчын, аднак яны зарабляюць чамусьці менш за моцны пол. Незразумелым для Ніла Бунэ падаецца і тое, што пры такой колькасці ўрачоў беларусаў, якія дажываюць да 60-гадовага ўзросту, у два разы менш, чым, напрыклад, ірландцаў.

**Алесь МЯСНІКОЎ.**

**ПАДАРОЖЖА ПА МІНСКУ: ТРАЕЦКАЕ ПРАДМЕСЦЕ**



Фота Мікалая ПЯТРОВА.

## СТАСУНКІ




**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Уладзімір ЯРМОШЫН з прадстаўнікамі Сусветнага банка наведаў мінскую школу № 105, у якой у рамках праекта Сусветнага банка выкананы работы па энергазберажэнню.**

## РАТЫФІКАЦЫЯ

**В ПСКОВЕ ПАРАФИРОВАН ПРОЕКТ СОГЛАШЕНИЯ О ТОЧКЕ ПЕРЕСЕЧЕНИЯ ГРАНИЦ БЕЛАРУСИ, ЛАТВИИ И РОССИИ.** Проект межправительственного соглашения Беларуси, Латвии и России о точке пересечения границ трех стран, к которому приложена делимитационная карта, одобренная экспертами, парафирован в Пскове.

Как отмечает пресс-центр Министерства иностранных дел Латвии, "переговоры делегаций трёх стран прошли в дружественной и конструктивной атмосфере".

**Елена РУДЬ.**

## МУЗЕЙ АНАМАЛІЙ

Чалавек-бульдог, сіямскія блізняты, цыклопы, дзіця з двума тварамі і іншыя паталогіі сталі экспанатамі музея тэраталогіі, які адкрыўся у Гродне. У яго калекцыі, якой у навучальных мэтах карыстаюцца студэнты і выкладчыкі мясцовага медыцынскага універсітэта, налічваецца каля 50 узораў прыроджаных і набытых чалавечых анамалій. Усе экспанаты — сапраўдныя, паступілі з розных рэгіёнаў і служаць своеасаблівай ілюстрацыяй вынікаў ужывання бацькамі алкаголю, наркотыкаў, таксічных рэчываў.

**Рэдакцыя газеты "Голас Радзімы" выказвае глыбокае спачуванне былой супрацоўніцы рэдакцыі Вераніцы Анатольеўне ЧАРКАСАВАЙ у сувязі са смерцю БАЦЬКІ.**

## ПРАЕКТЫ

### МІНСКІ ЗАВОД КОЛАВЫХ ЦЯГАЧОЎ МОЖА ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ У ПРАГРАМЕ МАДЭРНІЗАЦЫІ СІЛ СУПРАЦЬПАВЕТРАНАЙ АБАРОНЫ ІНДЫІ

Мінскі завод колавых цягачоў сумесна з расійскімі прадпрыемствамі можа прыняць удзел у праграме мадэрнізацыі сіл супрацьпаветранай абароны Індыі, паведамілі на прадпрыемстве.

Зараз індыйскім і расійскім бакамі разглядаецца пытанне аб мадэрнізацыі стацыянарных зенітна-ракетных комплексаў С-125 "Пячора", што маюцца на ўзбраенні індыйскай арміі. Мяркуецца, што на базе раней пастаўленага ўзбраення будуць створаны мабільныя комплексы, аналагічныя ЗРК "Пячора-2А".

Мадэрнізаваныя зенітна-ракетныя комплексы плануецца ўстанаўліваць на пазадарожнае колавае шасі вытворчасці Мінскага завода колавых цягачоў, якое вырабляецца на базе аўтамабіля МЗКТ-6525. Гэта аўтамабіль з колавай формулай 6х6 грузападымальнасцю 21 тона, дарожны прасвет складае 380 міліметраў. Ашыноўка МЗКТ-6525 аднаскатная, ціск у шынах рэгулюецца, у падвесцы пярэдніх колаў выкарыстаны ліставыя рэсоры, падвеска двух задніх колаў балансірная (замест рэсораў у ёй выкарыстаны тарсіёны). Па ўзгадненню з заказчыкам аўтамабіль можа збірацца з дызельнымі рухавікамі Яраслаўскага маторнага завода (Расія), германскіх фірмаў "Дойц", "Мерседэс-Бэнц".

Мінскі завод колавых цягачоў спецыялізуецца на дробнасерыйным выпуску пад заказ колавых цягачоў і спецыяльнай аўтамабільнай тэхнікі. Завод збірае больш за 70 мадыфікацый аўтамабіляў грузападымальнасцю ад 12 да 150 тон.

Асноўныя спажыўцы гатовай прадукцыі Мінскага завода колавых цягачоў — суб'екты гаспадарання Расійскай Федэрацыі: прадпрыемствы будаўнічага, газаздабываючага і нафтаздабываючага комплексаў. Па ацэнцы спецыялістаў МЗКТ, амаль уся прадукцыя завода экспартуецца, у Беларусь вяртаецца каля пяці працэнтаў машын ад агульнага аб'ёму вытворчасці пасля ўстаноўкі на шасі МЗКТ кранаў.

65 працэнтаў матэрыялаў і камплектуючых МЗКТ набывае за межамі Беларусі, у асноўным у Расіі.

**Віктар ЛІС.**

## АНОНС

### ВЫЙШАЎ ПЕРШЫ ТОМ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВАГА ПЕРЫЯДЫЧНАГА АЛЬМАНАХА "TERRA ALBA"

Ён выпушчаны Магілёўскім таварыствам культурных ініцыятыў "Брама" ў рамках выдавецкай праграмы "Фарміраванне новага гуманітарнага мыслення ў Беларусі". У першы том выдання, прызначанага для спецыялістаў у галіне беларускай філалогіі і культуры, увайшлі работы па праблемах вывучэння гістарычных заканамернасцей і сучаснага становішча літаратурнага працэсу ў Беларусі, беларускага фальклору, мовы мастацкай літаратуры.

Бліжэйшыя нумары "TERRA ALBA" будуць прысвечаны такім пытанням, як "Мова і соцыум", "Сексуальная прастора беларускай культуры", "Містычнае вымярэнне культуры Беларусі".

У праграмным артыкуле нового выдання сказана, што яно "стане цэнтральным перыядычным выданнем у Беларусі па акумуляцыі прагрэсіўнай гуманітарнай думкі і ў якім упершыню пад вокладкай аднаго перыядычнага выдання будзе зроблена спроба паслядоўнага разгляду ідэалагічна і этычна значных бакоў жыцця Беларусі, яе развіцця і будучыні як свабоднага грамадства".

**Алена РУДЗЬ.**

## СПОРТ

**ЧЭМПІЁНКА СВЕТУ ЗІНАІДА СТАГУРСКАЯ.** У французскім горадзе Плюз завяршыўся чэмпіянат свету сярод прафесіяналаў па шасейных велагонках. 29-гадовая веціблянка Зінаіда СТАГУРСКАЯ паказала лепшы час у групавой гонцы і ўпершыню ў гісторыі беларускага веласпеднага спорту атрымала залаты медаль і стала чэмпіёнкай свету 2000 года.




**ШАХМАТЫ.** У Стамбуле прайшла шахматная алімпіяда, якая прынесла нямала сюрпрызаў. Наша мужчынская зборная ў 12-м туры перамагла Інданезію (3:1), у 13-м — зборную Казахстана (3:1), а ў апошнім — шахматысты згулялі ўнічыю са зборнай ЗША (2:2). У выніку — 32-е месца, а перамагла зборная Расіі, апярэдзіўшы на адно ачко Германію.

Беларускія шахматысткі ў 12-м туры згулялі ўнічыю з Індыяй (1, 5:1, 5), у 13-м — прайгралі іспанкам (1:2), а ў апошнім згулялі ўнічыю са славачкамі і занялі 24-е месца. У жанчын перамагла зборная Кітая, якая апярэдзіла Грузію і Расію.

Наўрад ці вынікі нашых зборных можна лічыць здавальняючымі.

**ФУТБОЛ.** У першым туры адборачнага турніру па футболу да чэмпіянату Еўропы сярод юніёраў беларуская зборная згуляла ўнічыю (2:2) з венграмі.

Падрыхтаваў **Міхаіл МАЗАКОЎ.**

## МАЛДАЎСКІЯ ЎРАЖАННІ

# ВЯСЁЛКА ў ПРАДЧУВАННІ НАВАЛЬНІЦЫ

Усупольцы беларусаў у Тыраспалі аб'яднаны розныя людзі: навукоўцы, інжынеры, выкладчыкі... Ёсць і свой мастак Аляксей Кузменка, і прадпрымальнік Сяргей Шапран. Былы вайсковец, хлопец з-пад Брэста, ён разам з жонкай Людмілай даволі ўдала вядзе сваю справу. Мае кандытарскі цэх, у якім занята трыццаць чалавек, і вельмі папулярную кандытарскую. Цяпер Сяргей заклапочаны планам пашырэння вытворчасці: рыхтуецца адкрыць яшчэ адзін цэх. Больш за ўсё ўразіла звышпатрабавальнасць да сябе і рабочых: прадпрымальнік Шапран імкнецца, каб фірменныя вырабы вызначаліся найвышэйшай якасцю.

Спадар Сяргей прыняў гасцей у сваёй кандытарскай. Ссунулі сталы, а на іх — нібы абрус-самабор — свёдчанне невынішчальнай беларускай гасціннасці. Як сказала Тамара Ломцева, у тутэйшых беларусаў гэтае месца стала своеасаблівым клубам, дзе святкуюцца найбольш значныя падзеі. Прызнацца, гэта канчаткова развеяла апасенне, што ў Прыднястроўі жывуць як у блакадзе, ва ўсім сябе абмяжоўваюць, прадукты дзеляць на пайкі і г. д.

У калейдаскопе хуткіх змен сітуацый і размоў прыйшло адчуванне, што адлегласць паміж Тыраспалем і Беларуссю скарачаецца. У гарадскім упраўленні культуры Тыраспаля жыццё ў літаральным сэнсе гэтага слова кіпела. Бесперапынна заходзілі людзі, разрываўся тэлефон. На той час, як зайшлі да кіраўніка ўпраўлення Галіны Галаган, яна размаўляла з Віцебскам наконт падрыхтоўкі да ўдзелу ў фестывалі "Славянскі базар". Потым Галіна Васільеўна расказала, што мясцовыя беларусы — вельмі зацікаўленыя памочнікі ў арганізацыі гарадскіх спраў: Дня славянскага пісьменства, свята горада... Нацыянальныя аб'яднанні садзейнічаюць наладжванню Дзён культуры сваёй этнічнай радзімы. У ліпені ў Малдове прайшлі Дні культуры Беларусі. У рамках іх праведзення беларускія мастацкія калектывы пабывалі і ў Прыднястроўі.



Аказалася, што тут добра ведаюць мінскія тэлевізары і брэсцкія газавыя пліты. А нядаўна ў Тыраспалі з'явіўся новы прыватны магазін "Магнолія", які гандлюе трыкатажнымі, галантарэйнымі вырабамі беларускай вытворчасці.

Дададзім, што дзеці тутэйшых беларусаў ахвотна выкарыстоўваюць магчымасць вучыцца і адпачываць на Беларусі. Зацікаўленае стаўленне Беларускага пасольства да беларускай меншасці ў Малдове ўмацоўвае адчуванне абароненасці.

І усё ж гэтыя прыемныя ўражанні нібы вясёлкавы німб напярэдадні навальніцы. Так, урэшце, можна растлумачыць прыднястроўскія ўражанні. Бо адчуванне небяспекі, нявырашанасці сітуацыі тут улясцівае, бадай, кожнаму чалавеку. Наведванне Кішынёва Уладзімірам Пуціным, яго перамовы з прэзідэнтам Малдовы падказваюць: наспявае нейкае рашэнне. Але якое? У Прыднястроўі гатовы адстойваць свой пункт гледжання.

Увечары, пасля работы, у мясцовым Палацы культуры сабралі-

Заканчэнне.
Пачатак у № № 39, 40, 42, 47.





ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

## НАЙСТАРЭЙШАЯ ЖЫХАРКА БЕЛАРУСІ РЫХТУЕЦЦА АДЗНАЧЫЦЬ 123 ГАДЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

Марыя Шарай напярэдадні Каляд, 2 студзеня 2001 года, адсвяткуе свой 123-ці дзень нараджэння.

Жыве Марыя Васільеўна з сястрой у вёсцы Верхнія Жары Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. Па яе словах, яна працавала ў сельскай гаспадарцы, да ўрача не звярталася ніколі.

Як паведамілі спецыялісты Брагінскага раённага аддзела сацыяльнага забеспячэння, якія шэфствуюць над доўгажыхаркай, Марыя Васільеўна вядзе актыўны для свайго паважнага ўзросту лад жыцця, рэгулярна сустракаецца з суседзямі. Вёска яе знаходзіцца ў зоне радыеактыўнага забруджвання з узроўнем ад 5 да 10 кюры на квадратны кіламетр. Марыя Васільеўна — адна з чатырох жыхарак раёна, якія перасягнулі стогадовы юбілей.

Да цяперашняга часу падтрымлівае з доўгажыхаркай адносіны былы старшыня мясцовага сельсавета Любоў Дзяркач, якая ў свой час на падставе дарэвалюцыйных дакументаў выпісвала Марыі Васільеўне пашпарт.

Землякі доўгажыхаркі цвёрда ўпэўнены ў няправільнасці меркавання заходніх СМІ аб тым, што найстарэйшай жыхаркай планеты была 115-гадовая Ева Морыс, якая нядаўна памерла ў Вялікабрытаніі. Аднавяскоўцы Марыі Васільеўны пры гэтым адзначаюць, што ўзрост беларускай доўгажыхаркі дакументальна пацвярджаецца.

**Алена РУДЗЬ.**

МЯЖА



На пункце пагранічнага кантролю "Новая Гута" беларуска-ўкраінскай мяжы нясе службу кантрактнік, радавая пагранічных войскаў Кацярына ІСАКАВА (на здымку). Яе ўчастак працы — пашпартны кантроль.

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ**, БелТА.

ДЫПКУР'ЕР ПРАДСТАЎЛЯЕ

## «ВЕСТНИК МИНИСТЕРСТВА ИНОСТРАННЫХ ДЕЛ»

По статистическим данным, в Беларуси выходит свыше 1 000 периодических печатных изданий, в числе которых выделяется так называемая специализированная пресса — газеты, журналы, бюллетени, вестники...

Одним из специализированных изданий Республики Беларусь является "Вестник Министерства иностранных дел". В беседе с руководителем Информационного центра МИДа, на базе которого издается вестник, Николаем КАМЫШИКОМ выяснилось, что издание это "молодое", выходит в свет всего четвёртый год. Первый номер датирован 1997 годом.

По словам Н. Камышика, издание предназначено для широкого круга специалистов, занимающихся внешнеполитической и внешнеэкономической деятельностью. Им по долгу службы необходимо знакомиться с материалами, публикующимися в "Вестнике Министерства иностранных дел". С другой стороны, контингент читателей расширяется за счёт официальных представителей общественности, следящих за развитием внешних отношений Республики Беларусь. Однако среди читателей появляется всё больше граждан, которые интересуются вопросами внешней политики, экономики, культуры, следят за ходом мирового развития.

Материалы вестника играют большую роль в разъяснении сути внешней и внутренней политики Беларуси, обеспечении адекватного восприятия происходящих в стране процессов. Так, в рубрике "*Международная панорама*" в хронологическом порядке представлена летопись деятельности официальных государственных структур: встречи, визиты, заседания, сессии, конференции. Рубрика "*Дипломатический курьер*" включает назначения и отставки дипломатов, награждения, вручение верительных грамот, дипломатические контакты. Введение новых правил, изменение порядка въезда и выезда граждан, разъяснение официальных документов можно найти в разделе "*Вопросы консульской службы*". В журнале печатается информация о дипломатических представительствах Республики Беларусь за рубежом, о внешней торговле, заключении международных договоров и многое другое. Несмотря на определенную специфику публикаций журнала, растет известность вестника среди читателей.

Редакция газеты "Голас Радзімы", пользуясь одним из способов распространения востребованной в обществе информации, содержащейся в "Вестнике Министерства иностранных дел", планирует публикацию выборочных материалов из этого издания.

Подготовила
**Елена КОНОНОВА.**




ІДУЦЬ ЗДЫМКІ





Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм" прыступіла да стварэння дакументальнага кінафільма пад умоўнай назвай "Армія Рэспублікі Беларусь". Сцэнарый ваеннага пісьменніка Анатоля Сульянава, пастаноўка даручана беларускаму кінарэжысёру Анатолю Алаю, аўтару фільмаў "Марынеска", "Яго закапалі ў шар зямны", "Не плачце па мне".

Здымкі пройдуць у Брэсце, Гродне, Баранавічах, Слуцку, Маскве, Санкт-Пецярбургу.

НА ЗДЫМКАХ: аператар Мікалай СІДОРЧАНКА, кінарэжысёр Анатоль АЛАЙ, дырэктар фільма Алег САЛО на здымках на Гожскім палігоне пад Гроднам; атака штурмавых верталётаў на замаскіраваную танкавую пазіцыю.

**Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА**, БелТА.

ся сябры суполкі, каб паглядзець на чалавека з Беларусі, пачуць беларускую гаворку, расказаць аб сваіх справах і турботах. Часта гучала: працую ў добрым калектыве; у горадзе мяне ведаюць, шануюць; мы вельмі з'яднаныя...

Незвычайнасць гэтага асяродка, сітуацыі, якая склалася, выклікала свае новаўтварэнні. Дзесяць гадоў назад бескампраміснасць палітыкаў-мужчын прывяла да ўзброенага процістаяння. І тут самым дзівосным чынам праявілі сябе жанчыны. 2 верасня 1991 года, калі прыднястроўцы адзначалі гадавіну ПМР, былі арыштаваны кіраўнікі Прыднястроўскай і Гагаузскай рэспублік, некаторыя дэпутаты. Гэта аб'яднала жанчын Тыраспаля, падштурхнула да рашучых учынкаў. Тут ужо зведалі горыч пахаванняў і зразумелі: мужчыны не могуць спыніць агрэсію. Жанчыны прынялі сваё рашэнне: правесці палітычны страйк з блакіраваннем чыгункі. Праз месяц — 2 кастрычніка 1991 года — прыднястроўскія дэпутаты былі вызвалены.

І ўсё ж узброенае процістаянне змянілася ваеннымі дзеяннямі апалчэнцаў. 14-я расійская армія (яна да гэтага часу размяшчаецца тут), захоўваючы нейтралітэт, у гэтай сітуацыі нагадвала парахавое сховішча. І тады члены жаночага страйкавага камітэта і іх прыхільнікі прыйшлі 22 красавіка 1992 года ў акопы. Была сярод іх і Тамара Ломцева, іншыя беларускі. Пакінулі жанчыны сваю добраахвотную ахвярную вахту 8 мая, дабіўшыся ўвагі сусветнай грамадскасці, пэўнай салідарнасці з жанчынамі Малдовы. Аднак гэта не змагло папярэдзіць бендэрскую трагедыю: зруйнаваныя дамы, забітыя сярод служачых Бендэрскага гарнізона. Гэта не забываецца, таму самае вялікае жаданне тыраспальцаў — больш ніколі не дапусціць кровапраліцця. Яны вельмі адкрытыя, добразычлівыя, у іх не адчуваецца ніякай агрэсіўнасці, але і надзіва непахісныя.

У размове за "круглым сталом" ахвотна ўдзельнічалі ўсе прысутныя. Прыцягнула ўвагу тое, што кожны расказваў і пра свае карані, родных на Беларусі. Гэта былі нібы развагі ўслых. Адчувалася, што думкі пра магчымасць вярнуцца на Беларусь наведваюць многіх. Што іх выклікае? Па-першае, няпэўнасць сітуацыі са статусам Прыднястроўя, магчымасць актыўнай канфрантацыі. Людзі апасаюцца румынізацыі, эканамічных цяжкасцей, беспрацоўя...

— За апошні год-паўтара на Беларусь вярнулася пяць сямей, — сцвярджае Тамара Ломцева.

Аднак і пакінуць абжытыя мясціны не так проста. Напрыклад, цяжка прадаць кватэру за такую цану, каб набыць што-небудзь прыстойнае на Беларусі. А ехаць без сродкаў рызыкоўна.

Тамара Рыгораўна ў курсе спраў многіх мясцовых беларусаў. Калі трэба абмеркаваць перспектывы навучання дзяцей ці патрэбна дапамога пры пераездзе на іншую кватэру — перш за ўсё ўспамінаюць пра яе: дапаможа, арганізуе, пакліча памочнікаў. Менавіта да кіраўніка сваёй суполкі як да пасрэдніка звяртаюцца па тлумачэнне аб набыцці беларускага грамадзянства. Адна з апошніх сітуацый вельмі драматычная. Беларуская жанчына трапіла сюды як перасяленка пасля чарнобыльскай аварыі. Цяпер знаходзіцца ў шпіталі пад Мінскам. Перанесла анкалагічную аперацыю. Хоча застацца на Радзіме. Па дапамогу звярнулася ў беларускую суполку, тут імкнуцца зрабіць усё магчымае, выкарыстоўваючы добрыя кантакты з беларускім пасольствам ў Кішынёве.

Тамара Ломцева разумее сваіх супольнікаў. Сама апынулася ў Прыднястроўі, калі туды накіравалі мужа-вайскоўца. Дачка Вольга таксама выйшла замуж за вайскоўца, украінца па нацыянальнасці, і — вось жа хітрыкі лёсу! — ён накіраваны на службу ў Мінск. Тут і жыве сям'я, у якой двое дзетак. Сын Тамары Рыгораўны Аляксей апынуўся на Украіне, жыве ў Нікалаеве. Дзеці клічуць да сябе. Але ў яе тыя ж праблемы, што і ў іншых: ехаць без сродкаў не хочацца.

Аднак думкі аб вяртанні — не сведчанне панічнага настрою. І цяпер ёсць выпадкі, калі суполку папаўняюць навічкі. Нядаўна пераехаў да жонкі, мясцовай жанчыны, маладажон з Бабруйска...

Падарожжа да беларусаў Малдовы садзейнічала мноству знаёмстваў. Некаторыя маюць працяг у перапісцы, сустрэчах. Прызнаюся: не спадзявалася, што так моцна радніць за мяжой адчуванне Бацькаўшчыны.

**Наталля САЛУК.**

*Мінск — Кішынёў — Бендэры — Тыраспаль — Мінск.*

**ПРАДСТАЎЛЯЕ «LaSandr»**

# Уладзімір ЧАРНЫШОЎ НА СЦЭНЕ ЖЫЦЦЯ

Свой шасцідзесяцігадовы юбілей галоўны мастак Нацыянальнага рускага драматычнага тэатра імя Горкага, член Саюза мастакоў і Саюза кінематаграфістаў Беларусі Уладзімір Чарнышоў адзначыў трыма персанальнымі выставамі — вялікай справаздачнай у Палацы мастацтва, камернай пад назвай "У коле сяброў" у тэатры і лірычнай "...і акварэль", якая прайшла ў мастацкай галерэі "LaSandr".

Сцэнаграфія — асноўная галіна творчай дзейнасці Уладзіміра Чарнышова, але не адзіная — да жывапісу, у прыватнасці, партрэта і пейзажа ён адносіцца таксама сур'ёзна.



*Фёдар ШАЛЯПІН.*

Выпускнік Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі (Масква) 1986 года, вучань майстэрні Ю. Піменава, ён у якасці мастака-пастаноўшчыка ўдзельнічаў у стварэнні мноства кінастужак, сярод якіх "Бераг прынцэсы Люські", "Вялікія перагоны", "Сямейныя абставіны", тэлеспектакля "Зацюканы апостал", а таксама тэлевізійных дакументальных фільмаў.

Ствараючы эскізы да фільмаў і тэатральных пастановак, мастак паглыбляецца ў матэрыял, каб самому адчуць і данесці да гледача атмасферу, вывучыць характары персанажаў, а гэта магчыма пры наяўнасці асобага кінематаграфічнага мыслення, якім у поўнай ступені валодае Уладзімір Чарнышоў.

Нягледзячы на абмежаванне твора рамкамі сцэнарыя, мастак заўсёды аздабляе працу нечым сваім, асабістым, таму яго ўдзел у карціне заўсёды адчуваецца, у яго свой аўтарскі почырк.

А часам мастак так радніцца са сваімі героямі, што працягвае тэму ўжо за межамі твора ў станковых, акварэльных, маляўнічых і графічных варыяцыях.

Творчы патэнцыял мастака патрабуе выхаду, і Уладзімір Чарнышоў мае шчаслівую магчымасць запоўніць вольны час паміж здымкамі, тэатрам і педагагічнай дзейнасцю ў Акадэміі мастацтваў працай у жывапісе для душы. "Я заўсёды зайздросціў мастакам у здымачнай групе, таму што яны, валодаючы жывапіснымі здольнасцямі, кожную паўзу ў здымках запаўняюць творчасцю, адухоўленыя навакольнай прыродай, пішуць эцюды, малююць цудоўныя мясціны, дзе праходзяць здымкі; іх не пакідае творчае гарэнне; яны могуць выказаць свае эмоцыі — ці не шчасце гэта для мастака?"



*Мастак Уладзімір ЧАРНЫШОЎ.*

Гэтыя словы прагучалі з вуснаў калегі рэжысёра на адкрыцці выставы.

Увогуле адкрыццё было нетрадыцыйным. Не прытрымліваючыся стэрэатыпаў правядзення такіх мерапрыемстваў, юбіляр сам вёў прэзентацыю, прадстаўляў сваю выставу, дзякаваў людзям, якія дапамаглі яму ў жыцці і творчасці, раскрываў іх таленты і лепшыя чалавечыя якасці. І гэтым ён яшчэ раз паказаў сваё ўменне цаніць і паважаць людзей, клапаціцца ў першую чаргу пра іншых.

Яго ўменне ўсюды паспяваць не спяшаючыся, разважлівасць, змястоўнасць у гутарцы нагадвае мудрасць горца і, магчыма, не без падставы, бо сам ён родам з Урала, са Златавуста, дзе, як і на поўдні, таксама горы. У яго і захапленне незвычайнае — калекцыяніруе званочкі. Яны яго гордасць, ён з любоўю расказвае пра гісторыю кожнага, дае ім імя, адрознівае кожны па гучанню і адносіцца да іх, як да жывых істот. А адзін званочак з яго калекцыі — сапраўдны ўдзельнік выставы, засцерагае свайго гаспадара і яго творы і выклікае захапленне гледачоў.

**Ларыса БОРТНІК,**
*мастацтвазнаўца.*



*Эскіз да кінафільма "Дачка камандзіра".*



*Хлебароб.*

**НАТАТКІ З НАГОДЫ**

# ЗА ДАЛЯГЛЯДАМ ЗАБЫЦЦЯ

Складанасць своеасаблівага "зрэзу жыцця" працягам дваццаць гадоў і імкнуўся даследаваць аўтар дысертацыі. Ды час ужо сказаць некалькі слоў пра яго, бо пакуль што ў нас прысутнічае інкогніта. Паходзіць ён са Смаленшчыны, працуе там жа ў дзяржаўным універсітэце і мае прозвішча Корсак, добра вядомае тым, хто займаецца ці хоць бы цікавіцца беларускімі радаводамі. Падчас знаёмства і кароткай гаворкі я пацікавіўся, ці лічыць ён сябе беларусам. Адказ быў адмоўным. Паказальна, аднак, што нашу мову Анатоль Уладзіміравіч добра разумее, і тое, што гаварыў ён па-беларуску, гучала ў праўдзівым беларускім вымаўленні. Падчас той мімалётнай размовы пацікавіўся наконт ролі навуковага кіраўніка, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук М. Касцюка. Анатоль Корсак выказаўся так: "Міхаіл Паўлавіч быў зычлівым дарадцам, сваёй думкі не навязваў, а даў магчымасць поўнага самавыяўлення".

Што датычыць даследчыцкай пазіцыі, з якой напісана дысертацыя, то назаву яе навуковым аб'ектывізмам, пры якім аўтару важныя факты і пэўныя вывады на падставе іх аналізу, а не асабістыя эмоцыі, жаданне суперажываць і дакопвацца да гістарычных каранёў з'яў і працэсаў, што спрычыніліся да драм і трагедый жыцця, прынамсі, да незайздроснага становішча беларускага этнасу на Смаленшчыне. Такая пазіцыя даследчыка выклікала пэўныя заўвагі, якія не паўплывалі на агульную высокую ацэнку зробленай працы. Яно і зразумела: наўрад ці правамерна папракаць даследчыка, які лічыць сябе рускім, за недастатковую суперажывальнасць беларускай бядзе, калі самі беларусы выяўляюць сябе тут абыякавымі.

Улічым яшчэ, што абраная тэма не дазваляла асабліва засяроджвацца на адных беларусах і ў гэтым сэнсе аддаваць ім перавагу. Іншая справа, што становішча беларусаў з гледзішча гістарычнага і этнічнага на Смаленшчыне адрознае, скажам, ад немцаў ці літоўцаў. Улічваць гэты істотны момант даследчык быў абавязаны, і ў гэтым сэнсе слушныя заўвагі беларускага навукоўца Леаніда Лыча.



"Разам з этнічнымі меншасцямі Смаленшчыны, — цытую апанента, — у шэрагу месцаў актыўна выступала за права навучаць дзяцей на роднай мове і яе беларускае насельніцтва. Вось толькі ці правамерна адносіць яго, як гэта, напрыклад, зроблена ў дачыненні да яўрэяў, палякаў, латышоў і іншых, да этнічнай меншасці? Як вядома, такой дэфініцыяй называюць прадстаўнікоў народа, якія пакінулі сваю гістарычную радзіму і пасяліліся на тэрыторыі іншай краіны. Беларусы ж Смаленшчыны — гэта яе спрадвечныя жыхары. Яны тут сфарміраваліся на базе крывічоў і розных плямёнаў неславянскага паходжання, мелі на працягу доўгага часу магутную ўласную дзяржаву ў асобе Смаленскага княства. Выжыць, захавацца на гэтай тэрыторыі беларусам у натуральнай колькасці пазней не ўдалося з-за культурна-моўнай асіміляцыі, што адбывалася ў форме русіфікацыі, якая набыла асабліва пагрозлівы характар з другой паловы XIX стагоддзя і практычна завяршылася на зыходзе бягучага стагоддзя. Але колькі б ні засталося беларусаў на Смаленшчыне, яны яе абарыгены, а не этнічная меншасць".

Тое, што існаванне беларусаў у гэтым рэгіёне падаецца ў іншанацыянальным кантэксце, трэба, на маю думку, толькі вітаць, бо такі падыход дазваляе нам глянуць на саміх сябе збоку ды прымераць сябе да іншых. Менавіта такога погляду якраз і не хапае, пачынаючы ад грунтоўных акадэмічных даследаванняў і заканчваючы публіцыстыкай, звычайным побытам. Бо мы, беларусы, самахоць выключылі сябе з шырокага кантэксту сужыцця ў вялікай цывілізаванай супольнасці найперш хрысціянскіх народаў, дзе за два тысячагоддзі выпрацаваліся і трывала замацаваліся бясспрэчныя маральныя і духоўныя нормы і крытэрыі. Да такіх духоўных вартасцей належыць павага да пройдзенага народам гістарычнага шляху, пачуццё самапавагі і годнасці, пашана да сваёй культуры і мовы, беражлівае стаўленне да роднай прыроды, архітэктурнай спадчыны, увогуле ўсёй духоўнай і матэрыяльнай культуры. Толькі ў такім разе можна здабыць прызнанне, павагу і падтрымку іншых народаў ды кансалідаваць свой народ на вырашэнне самых складаных, у тым ліку і эканамічных праблем.

Нам, канешне, патрэбны цвярозы погляд на саміх сябе, няхай сабе і горкая, не вельмі прыемная, але праўда пра нацыю, якая сёння нібы застыла ў спаняверанасці, на вачах нішчыцца ў алкагольным ачмурэнні. Каб пераадолець нямогласць, патрэбна неймаверная актывізацыя ўсіх духоўных і душэўных сіл, бо іначай немінучая дэградацыя, а потым і выміранне. Яно спакваля ідзе цягам апошніх стагоддзяў і, на жаль, набірае ўсё большыя абароты ў наш час. Калі народ беларускі меў колькасць 20 мільёнаў яшчэ на пачатку стагоддзя, то цяпер дасягнуў пагрозліва паперaджальнай рысы — ніжэй 10 мільёнаў. Пакуль не позна, трэба змяніць увесь ход жыцця і павярнуць усю сістэму дзяржаўнага ўладкавання на выратаванне нацыі.

**Яўген ЛЕЦКА.**

Працяг. Пачатак у № 47.



ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА «ЖЫЦЦЁ І ВЕРА»

# «ВЫДАТНАЕ ЛІЦЦЁ» Ў МІНСКУ



На Беларусі цяпер адраджаюцца царкоўныя прыходы, манастыры, будуюцца храмы, адкрываюцца царкоўныя школы. У гэтых умовах вельмі важна прадаставіць нашай Царкве магчымасць дапоўніць, а часцей і поўнасцю адрадзіць званы на апусцелых званіцах.

За мінулыя гады амаль страціліся сакрэты вырабу званоў і іх падбору. Усё трэба было спасцігаць нанава. У нашай краіне за гэта ўзяўся калектыў мінскага прадпрыемства са шматзначнай назвай "Выдатнае ліццё" — адзіны вытворца званоў на Беларусі. Узначальвае калектыў прафесійны майстар ліцейнай справы Анатоль Данілаў — цёзка па прозвішчу, а магчыма і патомак знакамітага майстра, які адліў у 1652 годзе самы вялікі ў свеце "Успенскі" звон вагой 8 000 пудоў. Анатоль Захаравіч доўгі час быў начальнікам цэха мастацкага ліцця вопытна-механічнага завода ў Калядзічах, што пад Мінскам. Арганізацыяй справы займаецца Сяргей Яўціхіеў, па адукацыі эканаміст, які добра праявіў сябе ў галіне менеджмента і сучасных маркетынгавых даследаванняў. Абодва цікавяцца як традыцыйнымі, так і новымі, у тым ліку і замежнымі, тэхналогіямі вытворчасці званоў.

Творчы касцяк фірмы склалі прызнаныя спецыялісты ў галіне мастацкага ліцця.

Фірма "Выдатнае ліццё" адлівае званы на вытворчай базе Мінскага станкабудаўнічага завода, пабудаванага яшчэ да рэвалюцыі і да нядаўняга часу вядомага ў шмат якіх краінах свету сваёй прадукцыяй — працяжнымі станкамі. Ліццём званоў займаецца невялікі калектыў, у склад якога, акрамя рабочых, уваходзяць інжынеры, канструктары, спецыялісты ў галіне тэхналогіі ліцця, мастакі, скульптары, іканапісцы. Сярод рабочых ёсць ліцейшчыкі, фармоўшчыкі, чаканшчыкі, абрубшчыкі. Усе маюць вышэйшую кваліфікацыю, некаторыя валодаюць трыма—пяццю сумежнымі спецыяльнасцямі.

Да мастакоў і скульптараў прад'яўляюцца асобыя патрабаванні: у іх працы важнае месца займаюць пасты і малітвы. Да сваёй дзейнасці яны адносяцца не проста як да рамяства, але і як да царкоўнага паслушэнства.

За чатыры гады прадпрыемства прайшло поўны цыкл станаўлення: ад першых нязграбных ліцейных вопытаў да выканання ўрадавых заказаў і адліўкі званоў для саборных званіц.

Болей за паўсотні храмаў Божых ужо займелі свой голас, дзякуючы калектыву "Выдатнага ліцця".

Вытворчая палітыка, якую праводзяць кіраўнікі прадпрыемства, дазваляе трымаць цэны на званы ніжэйшыя за тыя, што прапануюць падобныя прадпрыемствы ў суседніх краінах. І гэта робіцца для таго, каб нават невялікія царкоўныя прыходы, якіх большасць, маглі набыць званы для сваіх храмаў.

Пры ўдзеле прадпрыемства створана першая на Беларусі Школа званароў, цэлы шэраг вучэбных дысцыплін якой звязаны з вырабам званоў. Некаторыя заняткі праводзяцца непасрэдна ў ліцейным цэху, дзе нараджаюцца званы. У чэрвені 2000 года ў школе быў першы выпуск.

У жніўні супрацоўнікаў "Выдатнага ліцця" запрасілі ўдзельнічаць у маскоўскім фестывалі званароў "Сімфонія званоў 2000", які праводзіўся па благаслаўленню Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Аляксія Другога. "Выдатнае ліццё" — лаўрэат гэтага прэстыжнага фестывалю. Адпаведны дыплом "За злучэнне традыцый і сучаснасці ў ліцці званоў" быў уручаны прадстаўніку прадпрыемства Патрыяршым Званаром І. Канавалавым.

Але майстры не былі б майстрамі, калі б спыніліся на дасягнутым. Аддзел навуковых даследаванняў працуе ў поўную сілу: у планах кіраўніцтва работа над удасканальваннем сплаву і профілю званоў. Тут мараць унесці свой уклад у стварэнне нацыянальнай школы ліцця званоў. Працуюць над акустыкай, спрабуюць вырашыць некаторыя супярэчнасці, якія здаўна ўзніклі паміж ліцейшчыкамі і званарамі.

**Генадзь ШЭЙКІН.**
**Фота С. СТАРАСЦЕНКАВА.**

СІТУАЦЫЯ

# «ПРАРЫЎ» КІНАБАМБІСТАЎ

***Жыве ў горадзе Маладзечне 79-гадовы Міхаіл Новікаў. Сціпла жыве, без помпы, хоць мае два ордэны, атрыманыя з рук Мітрапаліта Філарэта. За якія заслугі? Ды за тое, што ўжо амаль дзесяць год узнаўляе на Беларусі разбураныя храмы. Вось гісторыя аднаго з іх.***

I

У Барысаўскім раёне Мінскай вобласці ёсць Зембін. Мястэчка як мястэчка: са сваімі "плюсамі" і "мінусамі", калектыўнай гаспадаркай, добразычлівымі, працавітымі людзьмі... Нягледзячы на адсутнасць статуса сталічнага, абласнога ці раённага цэнтра, Зембін на пачатку адыходзячага веку займеў ажно тры храмы: царкву, касцёл і сінагогу. Як тое ні дзіўна, але пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі гэтыя збудаванні не зніклі, таму жыхары вёскі працягвалі іх наведваць — хрысціліся, вянчаліся, адпявалі. Падчас Вялікай Айчыннай вайны царкву чамусьці не зачапіла ніводная шалёная куля, тады як касцёл і сінагога былі разбураны амаль дашчэнту.

Бяда напаткала зембінцаў знянацку і адтуль, адкуль яе не чакалі: у 1966-м годзе царквой зацікавіліся маскоўскія кінематаграфісты. Дакладней, сцэнарыст-рэжысёр Данііл Храбравіцкі, які здымаў мастацкі фільм "Пераклічка", і маладыя тады акцёры Мікіта Міхалкоў і Таццяна Дароніна (больш нам вядомыя, адпаведна, па кінастужках "Я крочу па Маскве" і "Тры таполі на Плюшчысе"), а сёння — самыя што ні на ёсць "народныя"...



І вось Зембін наведалі кінабамбісты. Храбравіцкаму па сцэнарыю была вельмі патрэбна царква: маўляў, каб фашыстаў адтуль выбіць. Ці то часу рэжысёру не хапала, ці то хто яго пабытаў, але, пасоўваўшыся па вёсцы ды заўважыўшы цэркаўку, рэжысёр вырашыў дэкарацый не рабіць, а здымаць як мага натуральней. А тое, што царква пабудавана ў 1908 годзе знакамітым архітэктарам Струевым у псеўдарускім стылі з асаблівасцямі старажытнарускага дойлідства ды мае фрагменты, выкананыя ў традыцыях беларускага нацыянальнага мастацтва, — хіба ж гэта важна. Маўляў, кінематограф — перш за ўсё! У фільме ж здымаецца сын самога Сяргея Міхалкова — геніяльнага савецкага казачніка!



*Праблема аднаўлення храма хвалюе Міхаіла НОВІКАВА і жыхароў мястэчка.*

Словам, план у Храбравіцкага (па прозвішчу, трэба думаць, і паводзіны) быў просты: савецкі танк урываецца ў царкву і знішчае "жывую сілу праціўніка", разбураючы да гэтага некропаль, каменную агароджу могілкаў і алтар. Эфект чакаўся фенаменальны — тым больш на фоне ваяўнічай знешнасці маладога танкіста Міхалкова-Барадзіна.

Але... што за ліха? Танк не адолеў сцяну з першага разу! Рашэнне прыйшло імгненна: выкарыстаць дынаміт. Са слоў мясцовых жыхароў, выбух атрымаўся такім "праўдзівым", што рухнулі канструкцыі перакрыццяў, купалы і нават званіца. Разгубленыя зембінцы такога штурму ніяк не чакалі.

Радасці "кінанаватараў" не было канца: які кадр, якая праўдападобнасць!..

Праз год фільм "Пераклічка" атрымаў першае месца на пятым аглядзе-спаборніцтве кінастудый рэспублік Сярэдняй Азіі...

II

Да каго толькі ні звяртаўся Міхаіл Прохаравіч па дапамогу! Пісаў двойчы Мікіту Міхалкову, ягонаму бацьку, Даронінай, патрыярху Маскоўскаму і Усяе Русі Аляксію ІІ. Цішыня... Праўда, быў адзін адказ — ад сакратара Саюза кінематаграфістаў Расійскай Федэрацыі І. Масленнікава: "*Кінаакцёры ніколі не прымаюць удзел у сцэнах, звязаных з неапраўданай рызыкай, а прабіваць танкам сцены — рызыка больш чым неапраўданая. У гэтых здымках... наогул ніхто з акцёраў не ўдзельнічаў. Усё рабілі танкісты, а акцёры здымаліся ў канчатковай пазіцыі танка...*"

Але ці ў гэтым сёння справа: разбураў Мікіта Міхалкоў царкву ці не? З юрыдычнага пункту гледжання, Мікіта Сяргеевіч ні ў чым невінаваты: ён працаваў, як патрабаваў рэжысёр. Цяжка зараз знайсці і кагосьці з мясцовага начальства, хто даў дазвол на разбурэнне царквы. Ды гэта рабіць і не варта: у тыя гады справы такога маштабу, рашаліся, як мінімум, праз Мінск.

***Уражвае іншае: ці можа быць апраўданне акта вандалізму?***

З таго часу мінула амаль трыццаць пяць год, і таму чакаць ад Міхалкова пакаяння, думаецца, не варта. Тым больш, што чакаць чагосьці — справа няўдзячная, хаця, як стала вядома, у Святым Іерусаліме ля Труны Гасподняй падчас святкавання Нараджэння Хрыстова Мікіта Сяргеевіч паабяцаў нашаму Мітрапаліту Філарэту храм аднавіць і пералічыць 150 тысяч расійскіх рублёў (пяць тысяч амерыканскіх долараў) на рэстаўрацыю яго.

***Замест P. S.*** *З'яўляючыся помнікам архітэктуры пачатку XX стагоддзя, зембінская царква стаіць на ўліку помнікаў Рэспублікі Беларусь. Яе аднаўленне распачата з сярэдзіны 1998 года з благаслаўлення Мітрапаліта Філарэта. Але нават пятнаццаць мільёнаў рублёў (10 працэнтаў ад патрэбнай сумы), выдзеленых дзяржавай на царкву сёлета, пакуль па назначэнню не дайшлі...*

*Як кажуць, ні тут, ні там...*

**Алесь ЛІПЕНЬ.**
**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**
*Мінск—Зембін.*



*Жыхарка Зембіна Раіса ПРАДЗЯДОВІЧ расказвае, як адбываліся падзеі вакол царквы ў 1965 годзе.*



*Такой прыгажуняй была калісьці царква ў Зембіне.*



*У такім стане знаходзіцца царква ў Зембіне зараз.*

## МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ

### ЦІХАЯ ПРЫГАЖОСЦЬ ЛЯЛЕК

**Віктар ТАЛОЧКА**, БелТА.



Выстава японскіх лялек адкрылася ў Беларускім таварыстве дружбы. У Японіі першая лялька з`явілася прыкладна ў III тысячагоддзі да нашай эры, у эпоху Дзёман. Лялькі выраблюцца з дрэва, паперы, тканіны або гліны. Разнастайнасць тэхнічных прыёмаў японскіх майстроў стварае ціхую, спакойную прыгажосць, выразнасць і багацце каляровай гамы.



# ЗНОЎ ЗАГУЧАЎ СТРУННЫ КВАРТЭТ

Адной з цудоўных уласцівасцей музычнай культуры з`яўляецца яе дынамічнасць, здольнасць уражваць слухачоў не толькі наватарскімі пошукамі, але і дзіўнай традыцыйнасцю. Прыклад таму — вяртанне ў наша музычнае жыццё аднаго з самых складаных відаў камернага музіцыравання — квартэтнага выканаўства. Пераканацца ў гэтым у поўнай меры змаглі тыя, хто слухаў у канцэртнай зале Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі канцэрт-прэзентацыю Мінскага струннага квартэта.

Камернае выкананне ў Беларусі мае глыбокія гісторыка-культурныя карані: ад традыцыі хатняга і свецкага музіцыравання XVIII—XIX стагоддзяў да ўзнікнення Струннага квартэта Саюза кампазітараў у пачатку 60-х гадоў нашага стагоддзя. Гэты цудоўны калектыў пакінуў у спадчыну не толькі вялікі рэпертуар беларускай квартэтнай музыкі, але і глыбокую зацікаўленасць, захапленне сваёй справай. Тым больш трывожна было ўсведамляць, што вось ужо амаль 15 гадоў у Беларусі няма пастаяннага творчага калектыву падобнага роду.

Удзельнікі зноў арганізаванага Мінскага струннага квартэта могуць быць названы прамымі прадаўжальнікамі традыцыі. Юрый Герман (скрыпка), лаўрэат конкурсу камерных ансамбляў імя С. І. Танеева, Ігар Пятроў (скрыпка), Уладзімір Хімарода (альт), Дзяніс Скляраў (віяланчэль) — маюць вопыт працы ў такіх вядомых калектывах Беларусі, як Дзяржаўны сімфанічны аркестр, Дзяржаўны камерны аркестр, Дзяржаўны канцэртны аркестр, ансамбль салістаў "Класік-Авангард".



Датай стварэння новага струннага квартэта можна лічыць 26 сакавіка 2000 года, калі музыканты ўпершыню з`явіліся перад публікай як самастойны калектыў. Адбылася гэта падзея ў Германіі, у горадзе Керпен (Паўночная Рэйн-Вестфалія).

За паўгода квартэт беларускіх музыкантаў не толькі асвоіў шэраг сачыненняў класічнага рэпертуару, але і прадставіў на суд слухачоў новую праграму сучаснай квартэтнай музыкі. Вельмі паказальна, што такі малады калектыў ужо мае аўдыёзапісы, у тым ліку і кампакт-дыск. Як сцвярджае заснавальнік квартэта Ігар Пятроў, галоўная задача іх калектыву — папулярызацыя твораў сучасных беларускіх кампазітараў, а таксама музыканты жадаюць унесці свой уклад у разнастайнасць культурнага жыцця Беларусі.

Праграма канцэрта-прэзентацыі прадэманстравала не толькі мастацкую грунтоўнасць новага творчага калектыву, але і высокі ўзровень ансамблевага выканання. Стылявое адзінства, арганічная злітнасць гучання адрознівалі выкананне квартэтам твораў Й. Гайдна, Д. Шастаковіча. У заключэнне канцэрта прагучаў адзін з лепшых узораў рускай квартэтнай музыкі XIX стагоддзя — квартэт № 2 (рэ-мажор) А. Барадзіна.

У мастацкім чытанні ўсіх сачыненняў, выкананых у гэты вечар, адчувалася натхнёная і захапляючая творчасць маладых таленавітых музыкантаў. Наўрад ці яны думалі ў гэта імгненне пра тое, што сам факт іх нараджэння як Мінскага струннага квартэта азначае нейкую вяху ў гісторыі музычнай культуры Беларусі.

**Кацярына ДУЛАВА**,
*дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.*

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### ЗША

**14-га кастрычніка адбыўся чарговы сход нью ёрскага аддзелу БАЗА.**

З паведамленьнем аб сканчэньні працы над ангельска-беларускім слоўнікам выступіў Старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА і сябра слоўнікавае камісіі сп. Антон Шукелойць. Ён адзначыў, што падрыхтоўка слоўніка да друку ёсьць вялікай падзеяй у культурным жыцьці як у замежжы, гэтак і на Бацькаўшчыне. Патрэба ў салідным слоўніку ангельскае мовы, фактычна міжнароднае мовы, для беларусаў насьпела даўным даўно. Ён коратка распавёў пра гісторыю стварэньня слоўніка. Пэўны час таму назад аўтарка падручніка беларускай мовы, што выйшаў у Канадзе, сп-ня Валянтына Пашкевіч перадала ў Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва (БІНіМ) рукапіс ангельска-беларускага слоўніка, які патрабаваў рэдактарскай працы. Была ўтвораная слоўнікавая камісія, якая распачала сваю дзейнасьць каля 10 гадоў таму. Склад яе на працягу гэтых гадоў часткова мяняўся. Была праведзеная вялікая праца па ўдасканаленьні складу слоўніка, удакладненьні перакладу асобных словаў і выразаў. Памер слоўніка складае 40 000 словаў. Цяпер мяркуецца выбраць друкарню і выдаць слоўнік накладам каля 5 000 асобнікаў.

Сп. Шукелойць паведаміў прысутным на сходзе пра аўтарку слоўніка сп-ню Валянтыну Пашкевіч. Яна паходзіць з Пружанаў, дзе ў 1935 годзе скончыла польскую гімназію і ў той-жа год паступіла на гуманітарны факультэт Унівэрсытэту Сьцяпана Батуры ў Вільні. Праз год яна перайшла на матэматычна-прыродаведчы факультэт. Пасьля сканчэньня унівэрсытэту, які, дарэчы, меў працэнтнае абмежаваньне пры прыёме на вучобу беларусаў, сп-ня Валянтына Пашкевіч працавала настаўніцай. Пасьля вайны апынулася на Захадзе і там працягвала працу ў беларускім школьніцтве. На грант міністэрства адукацыі Канады выдала свой "Падручнік беларускай мовы" ў 2-х тамох.

Потым з паведамленьнем пра беларускае жыцьцё ў рэгіёне Бостану выступіў сп. Раман Кардонскі. Ён адзначыў, што хоць аддзел БАЗА ў Бостане пакуль невялікі, але людзей удалося зацікавіць справай. На жаль, са старэйшага пакаленьня беларусаў застаўся бадай толькі адзін сп. Зарэцкі. Тым ня менш праца ідзе. Сп. Кардонскі паведаміў пра "беларускія барбекю" ў Бостане і пра Інтэрнэт-праект "Беларуская Музычная Крыніца". Ён адзначыў, што да 100-годзьдзя славутага беларускага сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага ў Менску выдадзены кампакт-дыск.

**"Весткі й Паведамленьні".**

## ФАКТ БЕЗ КАМЕНТАРЫЯЎ

**УПЕРШЫНЮ ЗА ПАСЛЯВАЕННЫЯ ГАДЫ Ў БЕЛАРУСІ ВЫДАДЗЕНЫ ЯЎРЭЙСКІ КАЛЯНДАР. АБ ГЭТЫМ ПАВЕДАМІЎ ПРЭЗІДЭНТ ІУДЗЕЙСКАГА РЭЛІГІЙНАГА АБ`ЯДНАННЯ Ў БЕЛАРУСІ ЮРЫЙ ДОРН.**

Па яго словах, каляндар (тыраж 3 тысячы экземпляраў) змяшчае храналагічную інфармацыю аб яўрэйскіх рэлігійных святах, урыўкі са святых пісанняў, алфавіт іўрыта, а таксама "значную для кожнага веруючага іудзея інфармацыю аб часе запальвання суботніх свечак".

Як паведаміў Ю. Дорн, у цяперашні час на тэрыторыі Беларусі афіцыйна зарэгістравана каля 28 тысяч яўрэяў, якія з'яўляюцца членамі рэлігійнага іудзейскага аб'яднання. Штогод з рэспублікі на пастаяннае месца жыхарства ў Ізраіль выязджае каля 2,5 тысячы чалавек. У цяперашні час у Ізраілі жыве каля 100 тысяч імігрантаў з Беларусі. Найбольшая колькасць яўрэяў, якія выязджалі ў Ізраіль, прыпала на 1992 год, тады з рэспублікі выехала больш за 27 тысяч чалавек, паведаміў Ю. Дорн.

Ён лічыць, што яўрэйская рэлігійная абшчына "праіснуе" ў Беларусі яшчэ не болей за 10 год. Па яго прагнозах, да 2010 года на тэрыторыі рэспублікі будзе жыць каля 6 тысяч іудзеяў. Гаворачы аб тэндэнцыях працэсу эміграцыі беларускіх яўрэяў у Ізраіль, ён заўважыў, што ў асноўным выязджаюць людзі "актыўнага працаздольнага ўзросту".

Разам з тым Ю. Дорн паведаміў, што ў цяперашні час меў месца факт выезду ў Ізраіль 93-гадовага беларускага яўрэя разам з маладой жонкай-цыганкай. 23 родзічам гэтай цыганкі таксама былі выдадзены візы на права пастаяннага жыхарства ў Ізраілі.

**Алена РУДЗЬ.**

## У СКАРЫНАЎСКІМ ЦЭНТРЫ

У Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны адбыўся міжнародны "круглы стол" пад назвай "**Ідэя беларускасці і ідэя польскасці на мяжы тысячагоддзяў: да вызначэння паняццяў**". Ён быў арганізаваны і праведзены Скарынаўскім цэнтрам пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску. У ім прынялі ўдзел беларускія і польскія гісторыкі, філосафы, культуролагі, філолагі, сацыёлагі, сярод якіх такія вядомыя, як Рышард Радзік (Люблін), Яўген Міранові (Беласток), Юзаф Краковяк (Варшава), Уладзімір Конан, Мікалай Крукоўскі, Альфрэд Майхровіч, Адам Мальдзіс (Мінск), Алесь Краўцэвіч, Алесь Смалянчук (Гродна) і іншыя.

Ва ўступным слове дырэктар ННАЦ імя Ф. Скарыны, кандыдат філалагічных навук Любоў Уладыкоўская-Канаплянік выказала спадзяванне, што ў цесных, але цёплых бласлаўленнем Скарыны і традыцыяй Інбелкульта сценах Скарынаўскага цэнтра хопіць месца ўсім, хто не толькі цікавіцца навуковай праблемай польскасці і беларускасці, але рэальна, штодзённа ўласнымі рукамі закладвае падмурак будучыні. **Л. Уладыкоўская-Канаплянік** падкрэсліла: "*Скарынаўскі цэнтр заўсёды імкнецца і будзе імкнуцца да аб`яднання намаганняў, супольнасці, салідарнасці, узаемападтрымкі. Беларушчына нікога не абражвае, не гвалціць і не запалоньвае, яна ўсяго толькі дапамагае нам спраўдзіць вышэйшае прызначэнне чалавека — адухатварэнне быцця*".

# ДЗЕЛЯ ЗГОДЫ І ЎЗАЕМАРАЗУМЕННЯ

У прывітанні намесніка прэм`ер-міністра, міністра замежных спраў Беларусі **Урала Латыпава**, якое зачытаў прэс-сакратар Павел Латушка, адзначалася, што зварот да абмеркавання гэтай тэмы разам з польскімі калегамі адбываецца на новым вітку гісторыі. Далей у прывітанні гаварылася наступнае: "*Гісторыя зрабіла так, што беларускі і польскі народы, якія на працягу стагоддзяў жывуць побач, сёння, каб сустрэцца, павінны перасячы дзяржаўныя межы. Але разумная гісторыя зрабіла так, каб мы заўсёды помнілі не аб тым, што нас падзяляе, а аб тым, што нас зближвае — агульная гісторыя, блізкія мовы, культура*". Ад імя Міністэрства адукацыі слова браў **Георгій Бутрым**, які падкрэсліў, што навуковыя дыскусіі і спрэчкі могуць дапамагчы вырашэнню асобных актуальных праблем нашага жыцця. Пасол Польшчы ў Беларусі **Марыюш Машкевіч** адзначыў, што нам усім трэба сумесна вырашаць праблемы нацыянальнай самасвядомасці, самаідэнтыфікацыі беларусаў і палякаў. Ён сцвярджаў, што ва ўмовах развіцця інфармацыйных тэхналогій зноў актуалізуецца пытанне ўмацавання нашай саматоеснасці, асэнсавання свайго месца і ролі ў жыццядзейнасці грамадства.

Затым удзельнікі з вялікай увагай і цікавасцю праслухалі асноўныя даклады "круглага стала". Доктар сацыялогіі **Рышард Радзік** — аўтар шматлікіх прац па праблемах беларуска-польскіх узаемаадносін — спыніўся на аналізе працэсаў фарміравання сучаснай польскасці і беларускасці на працягу двух апошніх стагоддзяў, вызначыў некаторыя рысы іх падабенства і адрознення. Доктар філасофскіх навук **Альфрэд Майхровіч** падкрэсліў, што ідэя беларускасці — гэта ідэя нацыянальна-дзяржаўнай адметнасці беларускага народа. На яго думку, зараз нам неабходна найперш умацоўваць нацыянальную дзяржаўнасць, усямерна падтрымліваць і развіваць беларускую культуру, мову.

Доктар філасофскіх навук **Уладзімір Конан** сцвярджаў, што ва ўсе часы стабільнасць нацыі абумоўліваецца наяўнасцю яе "этнічнага ядра" і нацыянальнай эліты, прычым апошняя звычайна распрацоўвае праграмы нацыянальна-дзяржаўнага развіцця, а гэта, у сваю чаргу, прадвызначае будучыню кожнай нацыянальнай супольнасці. Доктар гістарычных навук **Алесь Краўцэвіч** выказаў думку, што галоўнай стратэгічнай задачай нацыянальнай ідэі з`яўляецца выжыванне нацыі. Паводле яго меркавання, розніца паміж беларускасцю і польскасцю заключаецца ў эфектыўнасці ажыццяўлення нацыянальнай ідэі.

Прафесар **Юзаф Краковяк** прысвяціў сваё выступленне праблемам польскасці і універсалізму, складаных суадносін нацыянальнай, рэлігійнай ідэнтыфікацыі, а таксама розным тлумачэнням сутнасці універсалісцкіх каштоўнасцей, арыентацый. Доктар гістарычных навук прафесар **Яўген Міранові** у сваім дакладзе паказаў ролю беларусаў і палякаў у справе незалежнасці сваіх дзяржаў у XX стагоддзі. На думку выступоўца, на Беларусі ў нацыянальна-вызваленчым, апазіцыйным руху ўдзельнічала адносна невялікая частка грамадзян Беларусі (у параўнанні з палякамі). Доктар філасофскіх навук прафесар **Мікалай Крукоўскі** падкрэсліў, што незалежная дзяржава — гэта рэальнасць нацыянальнай ідэі. Доктар філалагічных навук прафесар **Адам Мальдзіс** у сваім выступленні спыніўся на разглядзе ўзаемных стэрэатыпных уяўленняў двух суседніх народаў. Пазней адбылася ажыўленая навуковая дыскусія, на якой выказваліся спрэчныя, часам амаль супрацьлеглыя погляды. Цікавай была культурная праграма. Удзельнікі "кргла стала" наведалі з экскурсіяй Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту. Намаганнямі супрацоўнікаў Скарынаўскага цэнтра была арганізавана выстава беларускіх выданняў пра Польшчу і, адпаведна, польскіх выданняў пра Беларусь. Па выніках працы "круглага стала" мяркуецца выдаць асобны зборнік матэрыялаў.

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ.**



**ПАВОДЛЕ КНІГІ "ЛІСТЫ З ХЕЛЬСІНКІ"**



*Будуць часам ідалы*
*раструшчаны,*
*Сьвет разумны*
*стоміцца ад крыкаў.*
*Васільком у жыце*
*Беларушчыны*
*Назаўсёды*
*застанецца Быкаў!*

Рыгор БАРАДУЛІН.

Кажуць, эпісталярны жанр цяпер не ў модзе. Ліставаньне, якое цягам стагодзьдзяў было ці не адзіным сродкам зносінаў між людзьмі, саступае новым, электронным сродкам. Слова папяровае ўсё часцей мяняецца на візуальны вобраз — болей багаты і даступны для ўспрыманьня. І калі што трымаецца старых людзкіх звычак, дык гэта паэзія. Думка і пачуцьцё ўпарта ня хочуць зьнікаць з традыцыйных, гутэнбергаўскіх радкоў, надта яны паядналіся ў чалавечай сьвядомасьці і пакуль што трымаюцца адзін аднаго.

Так, паэзія ня можа абысьціся без напісанага (выдрукаванага) радка, таму Рыгор Барадулін паўтара гады пісаў вершаваныя лісты ў Фінляндыю. Вядома, што ростань абвастрае пачуцьці — да каханай, сябра або Радзімы — і часам нараджае шэдэўры вершаванай паэтычнай думкі. У гэтай невялічкай кніжцы безьліч самых сур'ёзных думак і самай высокай паэзіі чалавечага існаваньня. Натуральна, што празаік у гэтым сэнсе ня можа спаборнічаць звыклымі сродкамі і абраў ня надта традыцыйны спосаб дыялогу — выяўленчы. Атрымалася ня дужа гарманічна і стылёва (можа, нават дызгарманічна), але часам і ў дызгармоніі ёсьць свой лад і прывабнасьць. Зрэшты, пра тое ўжо меркаваць не аўтарам, — хай памяркуе чытач, калі такі патрапіцца на нашым пакуль яшчэ не зусім абязлюдзелым чытацкім шляху.

**Васіль БЫКАЎ**, люты 2000 года.

Маляваў Васіль БЫКАЎ

# ВОДГАЛАС



*Сустрэча на вакзале ў Хельсінкі.*




*Першы прытулак.*



*Сьвята "Хельсінкі-санамат".*



*Берагі Вуасаары*

Рыгор БАРАДУЛІН

# ЛІСТЫ З ВУШАЧЫ

*ЛІСТ ПЕРШЫ*

**Дажджы й дажджы,**
**І хмары, і самота,**
**І глухата**
**З усходу да заходу,**
**А ў сэрца ўпотай**
**Просіцца пяшчота,**
**І смутак цягне,**
**Як мядзьведзь калоду,**
**Дзе пчолы рупнасьці**
**Яшчэ жывыя.**
**Яшчэ імгненьне —**
**І душа завые...**

*3 ліпеня 1998 г.*

*ЛІСТ ДРУГІ*

**Сякера, малаток ды**
**абцугі —**
**Прывычнае музычнае**
**начыньне.**
**Высокая мэлёдыя тугі**
**У незабытным краі**
**Ціха стыне.**
**Сякера ўсё злуецца на сукі,**
**Што ўкамянелі зоркамі ў**
**брырвеньні.**
**Крамяняцца рудыя смалякі.**
**Праменьню трэскі**
**падстаўляюць жмені.**
**І малаток —**
**Няўрымсьлівы пастух —**
**У хлеў**
**Жалезны статак заганяе.**
**Ды прыпявае стыла:**
**стук-пастук.**
**Чакае з цемрай хмара**
**праліўная.**
**І клопату хапае абцугам,**
**Ня хоча прачынацца цьвік**
**пагнуты,**
**І дрэвы, верныя сваім**
**багам,**
**Маўчаць,**
**Дрывамі стаўшы ад**
**пакуты...**

*8 ліпеня 1998 г.*

*ЛІСТ ТРЭЙЦІ*

**Край перакуленых**
**нябёсаў —**
**Гэта там,**
**Дзе першы гром**
**Куляецца на лугавіне,**
**Дзе ў сівяроў і ў**
**падарожных**
**Позірк сіні,**
**Дзе рэчка нанач**
**Нешта шэпча чаратам.**
**Край перакуленых**
**нябёсаў —**
**Гэта там,**
**Дзе стынуць**
**Чарамі вітальнымі вазёры.**
**Зь іх вечнасьць пье нагбом,**
**Адзьдзьмухваючы зоры.**
**Дзе на жагнаньне**
**зьвесьціся**
**Суцешна кстам.**
**Край перакуленых**
**нябёсаў —**
**Гэта там,**
**Дзе родна туляцца**
**Магіла пры магіле,**
**Куды самім вярнуцца**
**Хочацца на схіле**
**Нам...**

*12 ліпеня 1998 г.*

*ЛІСТ ЧАЦЬВЕРТЫ*

**Сум — нацыяналіст.**
**Душа — касмапалітка.**
**Радзіма — незачыненая хата.**
**Шпачыны шчыры сьвіст**
**І туманкова сьвітка**
**Блуканцу нагадаецца зацята.**
**З усіх дарог адна**
**Жаданая — дадому —**
**І ў багацея, і ў нябогі-старца.**
**Чакае ўсіх яна.**
**Ня дай Гасподзь нікому**
**Бяз дарагой дарогі той**
**застацца...**

*8 жнівеня 1998 г.*

*ЛІСТ ПЯТЫ*

**Іспас,**
**Што яблычным імем**
**завецца.**
**Прапахлі яблыкамі крыжы.**
**Шапчу сваёй палахлівай**
**вейцы:**
**Ня калышы сьлязу, ня**
**дрыжы.**
**Сьлязою яблык дрыжыць**
**на галіне.**
**Раса дрыжыць на смутнай**
**траве.**
**Хмурынка лёгкая на**
**ўспаміне**
**У памяць незабыцьця**
**плыве...**

*19 жнівеня 1998 г.*

*ЛІСТ ШОСТЫ*

**Багоўка —**
**Кропелька вясёлкі —**
**Пагойдваецца на траве.**
**Стаміўся дождж,**
**А ўсё ж жыве**
**Настрой перадсьвітальны,**
**Золкі.**
**І хмелем,**
**Што трываліць зёлкі,**
**Упіцца хочацца асьве.**
**І сыніцца цэлы дзень саве**
**Багоўка —**
**Кропелька вясёлкі...**

*22 жнівеня 1998 г.*

*ЛІСТ СЁМЫ*

**Здасца хата ўбогая**
**палацам,**
**Толькі дасьць ступіць**
**На родны дол**
**Згадлівым заступцам**
**і дарадцам**
**Сыну блуднаму**
**Сьвяты анёл.**
**Колькі б доля пражы**
**ні напрала,**
**Ў шлях апошні йдзеш**
**Гол як сакол.**
**Дзе б душа на сьвеце ні**
**блукала, —**
**Назіркам за ёй**
**Сьвяты анёл.**
**Цяжка дагадзіць зямной**
**лагодзе.**
**У выгоды рэдкі частакол.**
**Чалавек датуль**
**З жыцьцём у згодзе,**
**Покуль зь ім**
**Яго сьвяты анёл...**

*23 жнівеня 1998 г.*

Маляваў Васіль БЫКАЎ

# ВОДГАЛАС



*Журналісты ўсюды дастануць...*



*Фінскія камяні.*



*Ля затокі ціхай.*



*Збоч вуліцы – камяні, як боханы.*

# ПАЛЯВАННЕ НА ГЛУШЦА



Напрыканцы лютага заззяла сонца. А ў пачатку сакавіка ў горадзе запелі птушкі і пачалі крычаць каты. Снег сышоў. Вясна, ды і толькі. "Як там наш глушэц?" — усё часцей уздыхаў я. Прыкладна ў сярэдзіне сакавіка я пачаў прагульвацца ўздоўж Свіслачы ў парку Горкага. "Нешта рана пачалася вясна ў гэтым годзе, — разважаў я, гледзячы ўслед заканым парачкам. — Каб толькі не спазніцца..." Вось і канец сакавіка, а тэлефон маўчыць. "Трэба чакаць", — супакойваў сябе сам, а ўвесь час думаў, што рабіць, і вырашыў падзяліцца сваімі бедамі з Аляксандрам Кандыбам.

— Навошта табе той Смаленск? — запытаў мяне Аляксандр. — Гэта далёка і небяспечна, трэба шукаць глушца побач. У мяне ёсць знаёмыя паляўнічыя, паспрабую зрабіць што-небудзь.

Пра глушца ён ведаў яшчэ менш за мяне. Але ўжо праз дзень паведаміў, што такуе гэтая птушка не дзень і не два, у чым быў упэўнены я, а бывае, што і месяц. Спачатку глушэц сваю шлюбную песню спявае на дрэве, а потым злятае на доп, распускае хвост, зноў спявае і такім чынам заахвочвае самку. "Гэта няправільна, — дадаў Аляксандр, — забіваць яго ў такі час..."

— Ёсць добрыя навіны, — вітаў ён мяне яшчэ праз дзень. — Папершае, затакуе глушэц, верагодней за ўсё, у сярэдзіне красавіка, а па-другое, на сённяшні дзень ёсць тры варыянты палявання: пад Слуцкам, Мядзелем і Жодзінам.

Калі ўсё так і адбудзецца, павесялеў я, можна фатаграфаваць глушца ў Расіі, а потым у нас ці наадварот, і пазваніў у Смаленск. Мне адказалі, што Мікалай ужо паехаў у лес і вернецца праз некалькі дзён. "Як жа так? — разгубіўся я. — Няўжо ён забыў?" Але ўвечары дачка казала, што раніцай нехта настойліва мяне шукаў па тэлефоне.

На гэтым навіны скончыліся. У Свіслачы ўжо кракалі качкі, а качары скалацілі ўсю ваду. Не, калі нічога не рабіць, усё прапіш, ужо чацвёртага красавіка, а цепліня такая, хоць бульбу садзі, няўжо ў лесе іншыя законы? Не веру я ў тое, што глушэц маўчыць. Што рабіць? І тут быццам нехта злітаваўся: шостага красавіка зноў павярнула на зіму. Выпаў снег, і тэмпература затрымалася каля нуля. Тым часам паляўнічыя са Слуцка паведамілі, што ў іх глушца ўжо няма: апошняе лета было засушлівае, і ён накіраваўся ў больш вільготныя мясціны. Вось дык раз! А Мядзель і Жодзіна быццам язык праглынулі. Толькі б не спазніцца!

— Досыць чакаць! — выпаліў я Аляксандру. — Трэба нешта рабіць!

— Выклікай Паўла, — пагадзіўся ён. — Што-небудзь ды будзе.

Так чатырнаццатага красавіка ўдзень Аляксандр, Павел і я пехалі ў Жодзіна, таму што ў Мядзелі птушкі такавалі так, што шыбы дрыжэлі, але ж не глушцы, а цецерукі.

Генадзь быў дома. Але сустрэў нас не ён, а велізарны пітон, якога лашчыла гаспадыня. Усё зыходзіцца, успомніў я народную легенду. Аднаму паляўнічаму пан загадаў забіць двух глушцоў да святочнага стала. Хадзіў ён па лесе і дзень, і другі, збіў ногі, але так і не ўбачыў ніводнай птушкі. І толькі калі пакланіўся ён вужынаму цару, лес адчыніў яму свае таямніцы, і паляўнічы здолеў выканаць панскі загад.



Неўзабаве з'явіўся і гаспадар. Ён расказаў, што ўчора бачыў глушца ў лесе і ў тым месцы, куды мы хутка паедзем, налічыў пяць пеўняў-глушцоў і адну курыцу.

На другім паверсе ў майстэрні, дзе на сценах былі чучалы звяроў і птушак, Генадзь правёў з намі невялічкі інструктаж: уключыў прайгравальнік, паставіў пласцінку з запісам спеваў глушца і растлумачыў, што першая частка песні завецца шчоўканне, і калі певень яе выконвае, ён усё чуе. Другая частка завецца тачэнне (быццам нехта гучна трэ рукі адна аб адну), тады ён не чуе, і ў гэты час можна шпарка наблізіцца да яго на два крокі, не больш, таму што песня кароткая, і потым зноў чакаць пад шчоўканне і рухацца пад тачэнне. Крый Божа, варушыцца, калі паблізу ёсць курыца: калі спалохаецца — усё прапала! А Павел дадаў, што па-польску часткі песні адпаведна завуцца каркаванне, быццам нехта выцягвае коркі з бутэлек, і шліфаванне.

Час яшчэ быў, і мы пачалі аглядаць чучалы розных птушак у шкляных шафах. Большасць з іх (а было іх за дзвесце) Павел пазнаваў, таму далей размова пайшла паміж ім і гаспадаром.

За дваццаць шэсць гадоў Генадзь зрабіў каля пяці тысяч чучалаў. А пачалося ўсё ў чатырнаццаць, і толькі служба ў арміі спыніла яго на два гады. Калі ён вярнуўся дамоў, убачыў зробленае іншымі вачыма. Відаць, тым і адрозніваюцца чучалы ад пудзілаў, што падобны да жывых, маюць свой характар, непаўторнасць і натуральнасць. І каб зрабіць іх, мала дасканала ведаць жыццё звяроў і птушак, трэба нешта яшчэ...

**Альберт ЦЭХАНОВІЧ.**

НА ЗДЫМКАХ: Аляксандр КАНДЫБА, Генадзь ПУЗАНКЕВІЧ і Павел СВЯНТКЕВІЧ; чучалы птушак у доме Г. Пузанкевіча.

**Фота аўтара.**

**Працяг. Пачатак у № 44.**

ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ

# ПІЛІПАЎСКІЯ НОЧКІ ПРАДУЦЬ САРОЧКІ

Піліпаўка ў народным календары пачынаецца з 28 лістапада і заканчваецца 6 студзеня. Напярэдадні, 27 лістапада, праваслаўныя вернікі адзначаюць Дзень святога апостала Піліпа, адкуль і паходзіць назва наступных дзён.

У гадавым коле Піліпаўка вызначаецца самымі моцнымі маразамі і завеямі. Адметнасць гэтага часу — і строгі чатырох-, шасцітыднёвы пост. Са сталоў у кожнай сям'і знікае ўсё скаромнае, ежа падаецца толькі посная: рыба, бульба, капуста, грыбы, заправленыя алеем ці канапляным маслам. Песні гэтага часу больш сумныя — паставыя, лірычныя. Так настрой сялянскага жыцця быццам гарманіраваў з настроем прыроды і надвор'я: на працягу амаль усяго піліпаўскага перыяду светлавы дзень становіцца ўсё меншым і меншым і 19—23 снежня дасягае крытычнай адзнакі — крыху больш за сем гадзін. Забягаючы наперад, варта прыпомніць, як мяняюцца настрой і паводзіны чалавека пасля зімовага сонцастаяння, калі дзень пачынае прыбываць, — паўсюль радасць і ўсенародныя гулянні.

На Піліпаўку хлопцы на чале з бацькам зносілі з гары і ўсталёўвалі бліжэй да чырвонага кута кросны, якія стаяць у хаце аж да самай вясны. Колькі за гэты час будзе выткана палатна для дзіцячых сарочак, посцілак, паясоў і ручнікоў! Нездарма ж у народзе казалі: "Піліп дзяцей адзявае".

Доўгімі халоднымі вечарамі матулі "варажылі" каля кроснаў, а дзяўчаты, наадварот, дома практычна не бывалі. На ўсю восень і зіму яны наймалі хату якой-небудзь удавы або проста збяднелай сям'і і, заплаціўшы ім у складчыну бульбай, крупамі, ільном, збіраліся на вячоркі.

Па надвор'і, якое трымалася на працягу Піліпаўкі, спрабавалі рабіць прагноз на будучае лета. Казалі, што калі Піліпаўка хмарная або снежная, май будзе мокрым, а піліпаўская непагадзь абяцала ўраджайнае лета.

Падрыхтавала
**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

РАДАВОД



Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

Этнаграфічны музей "Сялянская хатка" Насовіцкай сярэдняй школы Добрушскага раёна налічвае больш за 1 000 экспанатаў. Сярод іх розныя прадметы быту сельскіх жыхароў раёна мінулага і пачатку гэтага стагоддзяў. Усе яны былі сабраны ў розныя гады вучнямі школы, і зараз музей вядомы не толькі ў раёне, але і ў вобласці.

НА ЗДЫМКУ: грамадскія дазорцы школьнага музея, а па сумяшчальніцтву і экскурсаводы старшакласніцы Юлія ФЁДАРАВА, Таццяна ЧАРНЯНОК і Марына КІСЛОВА.

ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ



Выхаванцы дзіцячага сада вёскі Насовічы Добрушскага раёна пад кіраўніцтвам Валянціны Шульгі вырошчваюць кветкі і лімоны ва ўласным зімовым садзе. Арыгінальны будынак дзіцячага сада з басейнам і зімовым садам быў узведзены па чарнобыльскай праграме менавіта ў Насовічах, дзе ў 1986 годзе прынялі больш за 1 000 перасяленцаў з Брагінскага і Хойніцкага раёнаў. Сёння іх дзеці адчуваюць сябе тут, як дома.

Фота **Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

**«Голас Радзімы»**

**Галоўны рэдактар**
**Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:

Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнік **Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ, Алесь МЯСНІКОЎ,**
**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 3009.
Падпісана да друку 27.11.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).